Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№19 (784) 28 студзеня 1994 г. Пятніца. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 600.195 экз. | Кошт у розніцу — 50 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**День республики — национальный праздник Индии — Чрезвычайный и Полномочный Посол этой страны в Беларуси Рамеш Чандра Шукла отметил приемом.**

На приеме присутствовали члены правительства, народные депутаты, общественность республики, а также дипломаты, аккредитованные в Беларуси.

❑

**Азербайджанские войска после ночной передышки вчерашним утром возобновили наступление на южном и юго-восточном участках зоны армяно-азербайджанского конфликта.**

Карабахские подразделения вели тяжелые оборонительные бои.

❑

**Мирча Снегур как президент Молдовы пользуется безусловным доверием населения республики.**

Согласно результатам социологического опроса, проведенного американской компанией Пи-Би-Эн, около 75 процентов из 1446 опрошенных жителей республики высказались в поддержку курса главы государства.

❑

**Вчера начался визит председателя правительства Российской Федерации Виктора Черномырдина в Итальянскую Республику.**

Глава кабинета министров России встретится здесь с президентом Италии Оскаром Луиджи Скальфаро, председателем совета министров Карло Адзелио Чампи, другими государственными деятелями.

### Беда одна не ходит

**Вчера ночью был остановлен второй блок Игналинской атомной электростанции в Литве.**

Служба информации станции сообщила, что блок пришлось отключить из-за отказа схемы ручного управления ступенями реактора. Причиной отказа явилась "механическая неисправность одной из кнопок на пульте оператора".

Как уже сообщалось, 18 января был выключен первый блок электростанции, который не работает до сих пор.

### Как умер Алесь Адамович

**Последний раз голос живого Алеся Адамовича слышали в зале заседаний Верховного суда Российской Федерации.**

Там 26 января решался давний спорный вопрос о разделе имущества бывшего Союза писателей СССР. После своего, как всегда эмоционального, выступления Алесь Михайлович почувствовал себя плохо и вышел в коридор. Успел попросить вызвать "скорую помощь". Возможно, он бы остался жить, если бы вовремя была оказана медицинская помощь. Но "карета" городской "скорой" приехала, когда уже было поздно.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Кажется, февраль будет жарким. Но это обещают не синоптики

**Вчера на совместном заседании руководства и исполнительного бюро Совета стачечных комитетов принято решение объявить предзабастовочное состояние.**

Это решение было принято в связи с событиями, которые произошли на сессии Верховного Совета Беларуси.

2 февраля председатели стачкомов соберутся в Минске для координации совместных действий.

**Владимир САМОЙЛОВ.**

### Станут озера голубоглазыми?

**Сегодня в Минске завершает работу международная ярмарка "Агроимпэкс-94".**

На ней выставили свою продукцию более 60 фирм из Беларуси, России, Польши, Болгарии, Италии. В основном это оборудование для переработки сельхозпродукции, изготовления тары и упаковок.

Особый интерес у иностранных предпринимателей вызвали технологии Белгосуниверситета по производству сапропелей и очищению озер.

**Константин УЛЬЯНОВ.**

### В рубашках родились

**С того света, можно сказать, врачи вернули к жизни пребывавших в длительном коматозном состоянии 16-летнего Сашу Б. и его 13-летнюю сестренку Свету из Горецкого района.**

Протопив углем в дедушкином доме печь (дедушка находился в больнице), ребята так сильно угорели, что потеряли сознание и находились в забытьи более полусуток.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Спорт-экспресс

Первая в этом году неудача в чемпионате Межнациональной хоккейной лиги настигла минскую команду "Тивали" в Усть-Каменогорске. Наши проиграли местному "Торпедо", прочно занимающему девятую строчку в таблице, со счетом 1:6.

❑

В голландском городе Вейк-ан-Зее подходят к концу матчи двенадцати претендентов на мировую шахматную корону по версии ФИДЕ. Минский гроссмейстер Борис Гельфанд ведет в матче против англичанина Майкла Адамса со счетом 3,5 на 2,5.

### Оловянный лейтенант

**В Брестском гарнизоне ЧП.**

Заступившим в наряд начальником караула лейтенантом Б. убит рядовой срочной службы. Убит по глупой шалости. Зайдя в столовую, молодой лейтенант решил побахвалиться умением заряжать пистолет, не доставая его из кобуры. Воодушевленный открытыми ртами личного состава, фокусник достал пистолет, дабы продемонстрировать еще нечто. И тут грянул выстрел...

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Приземление в рынок

**Необычные учебные классы открыты в высвобожденных казармах одной из военных частей Лиды.**

Здесь уволенные в запас офицеры-авиаторы овладевают основами рыночной экономики.

Вчерашние военнослужащие, имеющие высшее образование, после шестимесячной учебы получают квалификацию специалистов по менеджменту, маркетингу и бухгалтерскому учету.

**Александр ЖЕЛКОВСКИЙ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Думай, парламент, думай!



## Станіслаў Шушкевіч — у адстаўцы. Хто будзе спікерам?..







**Павел СТАСЕВІЧ**

Эмацыянальны настрой вячэрняга пасяджэння пазаўчарашняга дня сесіі чымсьці нагадваў напружанне ў драматычным тэатры, дзе ігрэецца добра закручаная п'еса: павешаная на сцяну ў першым акце стрэльба вось-вось павінна бабахнуць...

І яна "бабахнула" салідна: 209 дэпутатаў выказаліся за адкліканне з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча. Прэм'ер-міністру В.Кебічу пашанцавала — ён на сваёй пасадзе ўтрымаўся.

Каментарыяў асаблівых вынікі не патрабуюць, яны былі прадказальнымі за дзень-два да гэтага. Сам С.Шушкевіч такі ход падзей, відаць, прадчуваў і таму паводзіў сябе, як мне паказалася, па-жыццёваму мудра, не губляючы раўнавагі. І, па-мойму, нягледзячы на вынікі тайнага галасавання, маральна ён "бой" выйграў.

❑

А ранішняе пасяджэнне ўчарашняга дня адкрыў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета В.Кузняцоў. Абстаноўка ў зале пасля пазаўчарашняга не вельмі, зразумела, спрыяла натхнёнай і спакойнай рабоце.

Але ж "Рознае" дэпутаты прайшлі.

Першым слова ўзяў Б.Гюнтэр. Тэма яго выступлення: праблемы Мінскага завода колавых цягачоў, які рашэннямі Дзяржкампрама прыведзены "до ликвидации". І таму калектыў гатовы на крайнія меры...

Дэпутат В.Уласенка таксама з трывогай гаварыў аб спыненых прадпрыемствах, беспрацоўі і безграшоўі грамадзян. "Дык якую эканоміку мы будуем: рыначную ці крымінальную?" — пытаўся дэпутат.

Л.Зданевіч расказаў аб трэцім з'ездзе Беларускай сялянскай партыі і рашэннях, прынятых на ім. У прыватнасці, аб адкліканні ўсіх народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь як не апраўдаўшых даверу выбаршчыкаў.



Сумным было выступленне дэпутата А.І.Вярцінскага: ён паведаміў калегам аб смерці Алеся Адамовіча — пісьменніка, навукоўца, грамадскага дзеяча. Яго памяць была ўшанавана ў Авальнай зале мінутай маўчання...

Дэпутат С.Антончык даў слова кожны дзень у "Розным" даводзіць да ведама усіх інфармацыю на самых "чэсных" людзей Беларусі. "Калекцыя" ў С.Антончыка сабрана багатая...

В.Голубеў выказаў парламенцкай большасці сваю ацэнку папярэдніх падзей і адстаўкі С.Шушкевіча: "У вас няма эканомікі, у вас няма палітыкі..."

❑

Далей пачалося тое, што і павінна было пачацца, — эмацыянальныя пошукі варыянтаў, як быць далей.

Прапаноў гучала шмат: зрабіць перапынак на тыдзень, на дзень-другі, на гадзіну. Былі і прапановы "прекратить склоки".

Сітуацыя сапраўды драматычная да смешнага: дэпутаты так зацята змагаліся з карупцыяй, што пакінулі без "галавы" і дзяржаву, і КДБ, і Міністэрства ўнутраных спраў. Во "нарэзалі"!..

Адным словам, зранку нічога канструктыўнага прыдумаць парламентарыі так і не змаглі. Спачатку быў аб'яўлены перапынак да 12 гадзін, а потым і да вечара: будуць ісці палітычныя кансультацыі ў фракцыях наконт прэтэндэнта на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета.

❑

Пакуль парламентарыі "прыходзяць у сябе" і шукаюць выйсце з палітычнага крызісу, журналісты ловяць інфармацыю "збоку". Так, з крыніц, якія заслугоўваюць даверу, стала вядома, што С.Шушкевічу ўжо прапанавана пасада кіраўніка Міжпарламенцкай асамблеі СНД...

Абмяркоўваюцца ў кулуарах і варыянты наконт будучага спікера. Называюцца розныя імёны. Але яснасці пакуль што мала: "зрэзаць" намнога лягчэй, чым "пасадзіць" некага больш дастойнага...

❑

Сёння зранку сесія прадоўжыць сваю работу. Які будзе яе плён — мы хутка і пабачым, і адчуем...

*Пра што гаварылася на прэс-канферэнцыях?*

## "Палітычная драма Станіслава Шушкевіча заключалася ў тым, што ён ні разу не адстаяў да канца сваю пазіцыю..."

"Палітычная драма палітыка Станіслава Шушкевіча будзе ўсвядомлена пазней", — так пракаменціраваў факт вызвалення Станіслава Станіслававіча Шушкевіча ад пасады Старшыні Вярхоўнага Савета народны дэпутат Віктар Ганчар. Ён, а таксама Аляксандр Лукашэнка і Дзмітрый Булахаў правялі позна вечарам, пасля таго як сталі вядомы вынікі галасавання, прэс-канферэнцыю, і хоць у віну кіраўніку парламента было пастаўлена "непрыняцце мер па барацьбе з карупцыяй, адсутнасць кантролю за работай праваахоўных органаў і праяўленне асабістай нясціпласці", удзельнікі прэс-канферэнцыі прызналі: гэта толькі фармальная падстава. Сапраўдныя прычыны зняцця Станіслава Шушкевіча іншыя.

"Трэба шчыра сказаць, што дэпутаты шукалі для гэтага падставу. Таму на працягу апошняга часу парламент чатыры разы ставіў пытанне аб вызваленні Шушкевіча", — сказаў Віктар Ганчар.

Галоўная памылка Шушкевіча ў тым, лічаць народныя дэпутаты, што кіраўнік парламента не заняў дакладную палітычную пазіцыю. Нягледзячы на неаднаразовыя запэўніванні, што ён падпарадкоўваецца волі большасці, якая выражае левыя сілы парламента, спікер так і не стаў выразнікам гэтых сіл. У сваім апошнім выступленні ў якасці кіраўніка парламента Станіслаў Шушкевіч у чарговы раз адрокся і ад апазіцыі, якая, нягледзячы на ўсе супярэчнасці, раней яго падтрымлівала. У выніку Шушкевіч-палітык застаўся адзін.

Трагедыя Станіслава Шушкевіча, на думку народных дэпутатаў, заключалася ў тым, што ён ні разу не адстаяў да канца сваю пазіцыю па важнейшых праблемах: правядзенню рэферэндуму аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет, падпісанню дагавора аб калектыўнай бяспецы і г.д.

Наколькі паўплывае адстаўка Шушкевіча на дзейнасць вышэйшага заканадаўчага органа? Удзельнікі прэс-канферэнцыі ўпэўнены: з яго звальненнем закончыўся этап "разборак", ёсць поўная палітычная яснасць, што дасць магчымасць арганізаваць работу Вярхоўнага Савета.

Праўда, наколькі апраўдаюцца гэтыя запэўніванні, сказаць цяжка, таму што, паводле слоў Віктара Ганчара, "работа Вярхоўнага Савета амаральная".

Ці адаб'ецца адстаўка Станіслава Шушкевіча на змене палітычнага курсу парламента?

Тут народныя дэпутаты аднадушныя: не, проста на левым парламенце з'явіцца левы лідэр, і хоць прозвішчы пакуль што услых не называюцца, але па паводзінах шэрагу народных выбраннікаў можна было зрабіць некаторыя прагнозы...

**Уладзімір ГЛОД, Ларыса ЛАЗАР. Белінфарм.**

## Вакансію ў Вярхоўным Савеце запоўніць ніхто не спяшаецца

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Ёсць падставы сцвярджаць, што мінулыя падзеі ў Вярхоўным Савеце ўзрушылі грамадства, і зараз нават у школьных класах, не гаворачы пра рабочыя курылкі і кабінеты чыноўнікаў, абмяркоўваецца, чаму вызвалілі Станіслава Шушкевіча і да якіх вынікаў гэта прывядзе. Да гэтага часу спрачаюцца аб гэтым і дэпутаты. А тыя, хто ўжо вызначыў сваю пазіцыю, спяшаюцца падзяліцца думкамі з журналістамі. Прапануем меркаванні членаў парламенцкай апазіцыі БНФ, якія яны выказалі на прэс-канферэнцыі ў чацвер.

**Зянон Пазьняк:** "Сцэнарый, аб якім мы гаварылі раней, дакладна выконваецца. Знялі двух "сілавых" міністраў, а потым і Шушкевіча. Безумоўна, той не меў апоры ні ў адной з фракцый і служыў, заканамерна, шырмай. Гэта прывяло яго да сумных вынікаў...

Мы ацэньваем мінулыя падзеі як паўзучы камуністычны пераварот".

**Мікалай Маркевіч:** "Тое, што адбылося ўчора, гэта не перамога нейкай праграмы, а, наадварот, яе адсутнасць. Ужо ў бліжэйшыя тыдні атрымаецца, што гэтым людзям не будзе чаго прапанаваць народу..."

... Зараз журналісты, якія акрэдытаваны ў Вярхоўным Савеце, прыкладваюць усе намаганні, каб даведацца аб магчымых кандыдатах на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. У розны час усплывалі прозвішчы дэпутатаў Вайцянкова, Марыніча, Каратчэні, Грыба, Ціхіні, Карпенкі... Вядома, што адны з іх знялі свае кандыдатуры самі, па другіх узнікае шэраг пытанняў. Падабраць чалавека, які б змог задаволіць усіх, вельмі цяжка. Бо дальнабачны палітык на гэтую пасаду не пойдзе, а ставіць чалавека без яркіх якасцей ніхто не жадае. Можа так адбыцца, што працэс зацягнецца яшчэ да наступнага тыдня. Карацей кажучы, зняць Старшыню было куды лягчэй, чым выбраць новага.

*В двух словах*

### С.Шушкевич будет председателем ассамблеи?

**Вчера утром С.Шушкевичу, отозванному белорусским парламентом с поста спикера, позвонил председатель Совета Федерации России Владимир Шумейко и предложил Станиславу Станиславовичу пост председателя Межпарламентской ассамблеи СНГ.**

Как нам стало известно, В.Шумейко информировал С.Шушкевича, что это предложение согласовано с руководителями ряда парламентов стран, которые входят в Содружество Независимых Государств.

Предполагается, что в понедельник состоится пресс-конференция С.Шушкевича.

### Жить лучше. Вместе

**Более половины населения республики — 53,6 процента — самой важной задачей, стоящей перед правительством и парламентом, считают повышение жизненного уровня.**

Таковы итоги социологического опроса, проведенного Институтом социологии Академии наук Беларуси.

Второе место в ряду приоритетных задач отводится восстановлению прежних хозяйственных связей в рамках СНГ. Эту мысль поддерживают 48,4 процента опрошенных.

### Растаяли, как утренний туман...

**Невероятные события происходят в Борисове, где инициативной группой были собраны подписи за проведение городского референдума о доверии горсовету и его досрочном роспуске.**

Как сообщил один из членов инициативной группы Геннадий Щербинин, четыре пачки — а это 1235 подписных листов — после сдачи в горисполком... исчезли. Члены группы обратились в прокуратуру с просьбой о возбуждении уголовного дела по этому факту.

**Лариса КЛЮЧНИКОВА.**

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні МАСЛЕНІКАВУ П.В. ганаровага звання "Народны мастак Беларусі"

За вялікі асабісты ўклад у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва прысвоіць мастаку-жывапісцу МАСЛЕНІКАВУ Паўлу Васільевічу ганаровае званне "Народны мастак Беларусі".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

24 студзеня 1994 г.
г.Мінск.
№ 2714-XII

